Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№111 (624) 9 чэрвеня 1993 г. Серада. | Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. | Тыраж 617155 экз. | Кошт у розніцу — 4 руб.

## ФАКС

### Вкратце

**— Альтернативы СНГ, в смысле формирования цивилизованной рыночной экономики, у нас нет, — заявил вчера руководитель дипломатического ведомства Беларуси Петр Кравченко во время передачи ему Чрезвычайным и Полномочным Послом Российской Федерации в республике Игорем Сапрыкиным грамот о ратификации устава СНГ парламентом России.**

"Мы рассматриваем дальнейшее сотрудничество между независимыми государствами как качественно новый подход к развитию экономики вообще и отмечаем это как восточноевропейское экономическое сообщество, которое постепенно формируется", — сказал он.

❑

**6—8 июня в Польше с официальным визитом находилась белорусская делегация, возглавляемая первым заместителем Председателя Совета Министров Беларуси Михаилом Мясниковичем.**

В Варшаве состоялся "круглый стол" с участием членов делегации и польского руководства, в ходе которого обсуждались конкретные пути сотрудничества между обеими странами в самых различных сферах.

❑

**9 июня в Москве будет проходить второе заседание экспертов стран Содружества по подготовке проекта Договора о создании экономического союза.**

На нем планируется доработать рабочий вариант проекта, который был подготовлен на первом заседании экспертов 2—3 июня в Минске.

❑

**В Министерстве юстиции Республики Беларусь зарегистрирована Ассоциация кардиологов Содружества Независимых Государств.**

Ассоциация ставит своей целью объединение усилий для решения актуальных научных и научно-технических проблем в области кардиологии и смежных дисциплин.

### Доллар упал. В курсе?

**Вчерашний курс валют банка "Комплекс" в Минске**

| Наименование валюты | Скупка | Продажа |
|---|---|---|
| Доллар США | 1260 | 1320 |
| Немецкая марка | 780 | 825 |
| Английский фунт | 1870 | 1964 |
| Финская марка | 222 | 233 |
| Французский франк | 223 | 234 |

**За минувшую неделю доллар упал в республике на двадцать рублей.**

Прогнозы экспертов о его бурном росте не подтвердились, хотя скорее всего подобное понижение чисто искусственно. В России курс "зеленых" каждый день поднимается. На вчерашних торгах Московской межбанковской валютной биржи за доллар давали уже 1104 рубля, что на пятнадцать больше, чем во вторник.

❑

**Затишье пока на Белорусской фондовой бирже.**

Из выставленных вчера 1 миллиарда 165 миллионов рублей кредита Национального банка было куплено 475 миллионов. Это связано с высокими процентными ставками. Трехмесячный кредит предлагается под 243 процента.

**Антон ЧЕКОВ.**

Рисунок Олега ПОПОВА.

### Спорт-экспресс

Обыграв в последнем матче отборочного турнира по волейболу сборную Португалии (у них на площадке) — 3:0, наши спортсменки вышли в финал чемпионата Европы. Он состоится в Чехии 26 сентября — 2 октября.

❑

В квалификационном турнире по баскетболу, который проходит во Вроцлаве, спортсмены из Беларуси проиграли сборным Хорватии — 72:112 и Латвии — 79:93.

❑

В финале женского парного разряда открытого чемпионата Франции по теннису Наталья Зверева (Беларусь) и Джиджи Фернандес (США) победили дуэт Лариса Савченко-Нейланд (Латвия) — Яна Новотна (Чехия).

### Этот "черный" день...

**Указом президента Азербайджана Абульфаза Эльчибея вчерашний день был объявлен днем национального траура в связи с многочисленными жертвами в Гяндже, городе на западе республики.**

4 июня там произошло вооруженное столкновение между сторонниками полковника Сурета Гусейнова, отстраненного несколько месяцев назад от командования корпусом азербайджанской армии, и воинскими подразделениями, верными правительству.

### А к Черноморскому флоту добавьте скифское золото!

**Директор Эрмитажа Михаил Пиотровский передал представителям украинской комиссии по реституции "О возвращении культурных сокровищ" копии документов, перечисляющие экспонаты музея, переданные с 1926 по 1991 год в собрания Киева, Львова, Одессы, Харькова и других городов Украины.**

Всего предметов искусства упомянуто около 18 тысяч. Одной из причин такого шага послужило требование украинской стороны о передаче республике нынешних экспонатов Эрмитажа, вывезенных с ее территории, в частности золота из скифских курганов.

**Михаил КАРЧИК.**

### "Я не знаю, кому и зачем это нужно..."

**Азербайджанские власти задержали еще двух бывших российских военнослужащих.**

По словам советника азербайджанского посольства в Москве, оба задержанных были оснащены полным комплектом для проведения диверсий. В отношении их возбуждено уголовное дело.

**Радио "Свобода".**

### И в Витебске берут взятки?

**5 июня 1993 года в 3.30 сотрудниками ОБЭП УВД Витебского облисполкома в ходе проведения оперативно-розыскных мероприятий пресечена попытка незаконного вывоза 7 тонн лома цветных металлов через КПП г.п.Бигосово Верхнедвинского района за денежное вознаграждение 1,5 млн.рублей.**

За совершенное преступление задержаны Сидельникова Т.Ю., 1963 года рождения, заведующая секретариатом первого заместителя председателя Витебского облисполкома Дроздова П.В., и Помазенок А.Г., 1949 года рождения, директор МП "Кентавр" в г.Витебске.

**(Из сводки МВД Республики Беларусь)**

### Призванных больше, чем отказавшихся. Пока?

**8 июня начался летний призыв в Вооруженные Силы Беларуси.**

В пресс-центре Министерства обороны республики отказались сообщить, каким количеством призывников предполагается пополнить ряды белорусской армии этим летом. Однако совершенно очевидно, что работникам военкоматов придется приложить максимум усилий, чтобы обеспечить успешное проведение призыва, — как свидетельствует статистика, число молодых людей, которые отказываются служить в армии, постоянно растет.

**Витовт СМОЛЬСКИЙ.**

### Лучшее кино — это казино?

**Желание выжить заставляет брестские кинотеатры, что называется, крутиться.**

Крупнейший из них — "Беларусь" — вынужден закрывать свой зал. Сегодня желанными гостями здесь стали поклонники бильярда, а в перспективе намечается открытие казино. В "Маяке", другом кинотеатре, отделом культуры горисполкома открыта хореографическая школа, хотя и кинофильмы пока еще тоже можно посмотреть.

**Олег СУПРУНЮК.**

### А судьи где? В Орше!..

**Завершено наконец длившееся более года следствие по делу о гибели от милицейских дубинок студента Витебского медицинского института Александра Баранова.**

Однако, к недоумению родственников покойного, судебный процесс намечается провести не в Витебске, а в Орше. Тем самым якобы удастся избежать "негативной реакции" со стороны товарищей Баранова по институту, требующих, чтобы наказание определялось там, где совершено преступление. Трогательная забота столичных юристов о нервах подсудимых вряд ли вызовет "позитивную реакцию" у всех, кто надеется на справедливый исход дела.

**Сергей ВИТЕБСКИЙ.**

### Троица по-дубровенски

**На редкость щедро помянули предков жители Дубровно.**

Традиционный православный праздник совпал с 500-летием города. В торжествах, "по-застойному" богатых и радушных, приняли участие многочисленные гости, в том числе из Красненского района Смоленщины. Возлагались цветы на могилы воинов, звучали народные, фронтовые, партизанские и современные песни. Несмотря на изобилие дорогих напитков, порядок в рядах торжествующих поддерживался на должном уровне. Этому, возможно, в какой-то степени способствовало присутствие двух генералов — комдива витебских десантников Валерия Хацкевича и начальника УВД Алексея Клещенка, которые прибыли не в одиночку.

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, БелаПАН и РИД.**

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Грашова-фінансавая палітыка патрабуе ведаў, а не мітынговасці

**Мікалай ГАЛКО**

Першая палова ўчарашняга дня была неспрыяльнай для майстроў мітынговых атак, бо прадмет дыскусіі — грашова-крэдытная палітыка — вымагаў спецыяльных ведаў і ўмення думаць нешаблонна і глыбока.

Успрымаць на слых эканамічныя спрэчкі цяжка. І ўсё ж паспрабую штрыхамі адзначыць іх ход.

Дэпутат Юрый Беленькі канстатаваў, што і Нацыянальны банк нарэшце прызнаў банкруцтва эканамічнай палітыкі ўрада. Без уласнай грашовай адзінкі, сцвярджаў ён, немагчыма праводзіць сваю палітыку.

Аляксандр Лукашэнка ва ўласцівым яму стылі даў ацэнку ўраду, праўда, не сваю, а быццам бы ад імя прафесійна працуючых дэпутатаў: маўляў, там пахне "мертвечиной". Не ведаю, наколькі яна стасуецца з тэмай дыскусіі, але пра Вярхоўны Савет Лукашэнка сказаў, што ў ім наогул нічым не пахне. Відаць, Аляксандр Рыгоравіч многаму навучыўся ў Эзопа.

Тых палітыкаў, што спадзяваліся ўратавацца менавіта адсутнасцю эканамічнай стратэгіі, крытыкаваў Уладзімір Цялежнікаў. Ён аналізаваў прычыны дысбалансу цэн на прамысловыя і сельскагаспадарчыя тавары.

Аб неабходнасці платы за знаходжанне на тэрыторыі Беларусі расійскіх вайсковых часцей, за нафта- і газаправоды гаварыў Віктар Какоўка.

Уладзімір Новік падрыхтаваў альтэрнатыўны праект пастановы па грашова-крэдытнай палітыцы. У прыватнасці, ён настойваў на ўвядзенні з 1 жніўня сёлетняга года беларускіх грошай.

Стрымана сустрэлі дэпутаты прамову прадстаўніка Асацыяцыі камерцыйных банкаў. Ён заклікаў, дарэчы, і да больш карэктнага асвятлення ў друку дзейнасці камерцыйных банкаў, каб павысіць давер да іх.

Пётр Пракаповіч пераконваў сваіх калег, што патрэбны больш спрыяльныя ўмовы для вытворцаў і стварэння дзяржаўнай структуры на базе СНД.

З пункту гледжання практыка, сказаў Мікалай Грынёў, даклад старшыні Нацыянальнага банка Багданкевіча выклікае сур'ёзнае пярэчанне. І лічбу ў 500 мільярдаў рублёў, якія быццам бы маюць прадпрыемствы ў сваім распараджэнні, назваў фантастычнай.

Крыху раней наш урад ківаў у бок суседніх краін, маўляў, мы жывём лепш. Цяпер практычна ківаць няма на каго. Лявон Зданевіч зрабіў слушны папрок у адрас прэсы, з якой немагчыма даведацца, як жывуць балтыйскія дзяржавы, Украіна...

Дзмітрый Арцыменя абвінаваціў Нацыянальны банк у рэзкім абясцэньванні беларускага рубля, прадказаў восеннюю ўсплёск беспрацоўя, падкрэсліў, што лозунгамі справу не зрушыш і заклікаў эканамічныя службы добра падумаць над праблемай.

У першай палове дня справа да прыняцця пастановы не дайшла. З альтэрнатыўным праектам выступіў Леанід Козік. На яго думку, Міністэрства фінансаў пераблытала свае функцыі і выступае ў ролі падатковай інспекцыі, не лепшым чынам дзейнічае і Нацыянальны банк, таму наспела неабходнасць рашучых мер супраць структур, ад якіх мала карысці дзяржаве.

Праект вырашылі размножыць, а потым разам з праектам камісіі, якую ўзначальвае Раман Унучка, паставіць на галасаванне.

Не атрымаў падтрымкі праект пастановы, прадстаўлены Раманам Унучкам, па размеркаванню прыбытку, атрыманага Нацыянальным банкам у мінулым годзе. Зноў дэпутаты задалі шмат пытанняў і не на ўсе атрымалі тлумачэнне. Магчыма, гэтыя акалічнасці і не дазволілі набраць патрэбную колькасць галасоў.

Пачалося паартыкульнае абмеркаванне законапраекта "Аб пажарнай бяспецы". Бадай, ніхто яшчэ так шчыра не перажываў за лёс будучага закона, як начальнік пажарнай аховы генерал-маёр Валерый Астапаў. Для дэпутатаў наладзілі выставу прылад, абмундзіравання, падрыхтавалі неабходную інфармацыю.

У "Розным", якім пачаўся дзень, выступілі дэпутаты Віктар Уласенка, які сцвярджаў, што існуе не крызіс эканомікі, а крызіс сумлення кіраўнікоў, Сяргей Слабчанка з запытам да прэм'ер-міністра аб лёсе Дзяржзнака, Анатоль Жук прапанаваў папраўкі да Кодэкса аб зямлі і Уладзімір Заблоцкі, які крытыкаваў урад за адсутнасць эканамічных рэформ.

*Срочно в номер!*

## Шаг вперед, два шага назад — по такому принципу развивает Беларусь сотрудничество с Западом

**"Визит в Минск убавил ожиданий" — так озаглавила ведущая столичная газета "Берлинер моргенпост" отчет об однодневной поездке в Беларусь правительственной делегации земли Бранденбург, которую возглавлял ее премьер-министр Манфред Штольпе.**

Прошедшие в субботу переговоры закончились фактически безрезультатно. Не состоялось даже подписание согласованного заранее "совместного заявления" — по инициативе белорусской стороны оно перенесено на осень. Мотивируя это неожиданное для делегации Бранденбурга решение, заместитель Председателя Совета Министров Беларуси Михаил Демчук заметил, что заявлению должна предшествовать разработка конкретных проектов.

Единственным итогом визита можно считать лишь решение оказать помощь минской детской хирургической клинике. Побывав здесь, Манфред Штольпе был настолько удручен ее жалким состоянием, что не раздумывая, дал обещание незамедлительно связаться с ведущими германскими фармакологическими предприятиями и договориться с ними о постоянной поставке в Минск остродефицитных лекарств.

Газета отмечает, что, несмотря на явное разочарование проведенными переговорами, премьер-министр Бранденбурга, министр юстиции земельного правительства Отто Бройтигам и другие члены делегации все же не теряют надежды на установление более тесных контактов с Беларусью. Интерес к сотрудничеству с ней в Бранденбурге большой. Однако время для крупных инвестиций в экономику страны, которой по-прежнему управляют старые структуры, еще не пришло, с сожалением констатирует "Берлинер моргенпост"...

Имея возможность постоянно наблюдать за генезисом наших взаимоотношений с ФРГ, возьму на себя смелость утверждать, что провал переговоров был предрешен. Причем именно по нашей вине. Бранденбург, как известно, включает в себя бывший Потсдамский округ ГДР. Иначе говоря, отнюдь не является для нас "терра инкогнита". Минская область на протяжении многих лет была его побратимом, вела активное и взаимовыгодное сотрудничество. Конечно, с той поры утекло много воды. Кардинально изменились условия. Но остались предприятия-партнеры, на них трудится немало хорошо известных в нашей республике специалистов. Хотя и полегче у них судьба, чем у нас, но тяга к восстановлению разрушенных связей отнюдь не меньше. Так что же мешало сделать это? Для разработки тех конкретных проектов, на которые сослался М.Демчук, не нужно было ехать за тридевять земель, проедать крохи от жалкого "валютного пирога". В Берлине на протяжении почти двух лет трудится официальный торговый представитель Беларуси Василий Леонов. Кому, как не ему, взять бы на себя львиную долю этой работы! За несколько дней до поездки делегации Бранденбурга в Минск я поинтересовался у Василия Севастьяновича, знает ли он об этом.

— Первый раз слышу, — признался торгпред. И, помолчав, добавил: "Не удивлюсь, если и посол о ней не знает!"

Разве нужны к этим словам комментарии?

**Игорь ОСИНСКИЙ, собственный корреспондент "Народной газеты" в ФРГ.**

Берлин, 8 июня 1993 г.

*З афіцыйных крыніц*

### Здаецца, нарэшце гандаль стане свабодным

**У Алма-Аце адбылося другое пасяджэнне Савета кіраўнікоў знешнеэканамічных ведамстваў краін — удзельніц СНД.**

Удзел у ім прыняла і беларуская дэлегацыя на чале з намеснікам старшыні Дзяржзнешэканамсувязі Сяргеем Атрошчанкам, былі адобраны праекты пагадненняў аб абмене інфармацыяй у галіне знешнеэканамічнай дзейнасці, аб арганізацыі Савета СНД па супрацоўніцтву ў галіне экспартнага кантролю, правілы вызначэння краіны паходжання тавараў. Абмеркаваны дакументы, якія датычаць работы рабочых груп савета. Гэтыя праекты будуць унесены на разгляд бліжэйшага пасяджэння Савета кіраўнікоў урадаў дзяржаў — удзельніц СНД.

Спецыяльным рашэннем Савет кіраўнікоў знешнеэканамічных ведамстваў адобрыў пратакол Савета кіраўнікоў знешнеэканамічных ведамстваў дзяржаў — удзельніц СНД аб агульных прынцыпах гарманізацыі мер тарыфнага і нетарыфнага рэгулявання ў рамках рэжыму свабоднага гандлю і прызнаў мэтазгодным заключэнне шматбаковага пагаднення аб свабодным гандлі, праект якога будзе разгледжаны на чарговым пасяджэнні Савета ў верасні.

**Белінфарм.**

### У Прэзідыуме Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

**Пад старшынствам В.Ф.Кебіча адбылося пасяджэнне Прэзідыума Савета Міністраў.**

Цэнтральнае месца ў парадку дня занялі пытанні ваеннага будаўніцтва. Заслуханы даклад міністра абароны П.П.Казлоўскага "Аб ходзе рэфарміравання і скарачэння Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь". Прынята адпаведная пастанова, у якой, у прыватнасці, намечаны меры па ўзмацненню сацыяльнай абароны ваеннаслужачых.

У сувязі са шматлікімі зваротамі ветэранаў вайны і шэрагу грамадскіх арганізацый Прэзідыум Саўміна разгледзеў пытанне "аб абвяшчэнні 23 лютага Днём абаронцаў бацькаўшчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь". Адобраны праект указа, які накіраваны на разгляд у Вярхоўны Савет.

Удзельнікі пасяджэння заслухалі інфармацыю старшыні Дзяржкамспорту, прэзідэнта Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі У.М.Рыжанкова аб магчымасці арганізацыі ў рэспубліцы алімпійскай электроннай латарэі. Дзяржкамспорту дадзены неабходныя паўнамоцтвы на правядзенне перагавораў па гэтаму пытанню з грэчаскай фірмай "Інтраком".

**Служба інфармацыі Савета Міністраў — Белінфарм.**

### Да ўручэння вярыцельных грамат

**8 чэрвеня Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Каралеўства Бельгія ў Рэспубліцы Беларусь барон Т'еры Дэ Грубен уручыў вярыцельныя граматы Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіславу Шушкевічу.**

Барон Т'еры Дэ Грубен нарадзіўся 17 лістапада 1941 года ў горадзе Антверпен. Закончыў Каталіцкі універсітэт у Левене. Мае вучоную ступень доктара права.

Дыпламатычную дзейнасць пачаў у 1969 годзе ў якасці прадстаўніка бельгійскай дэлегацыі ў НАТО. З 1970 года працаваў у прэс-службе апарату міністэрства замежных спраў Бельгіі, а з 1971 — у пасольстве Бельгіі ў Маскве. У 1976 годзе заняў пасаду аташэ па пытаннях эканомікі пасольства Бельгіі ў Вялікабрытаніі. З 1980 года працаваў генеральным консулам Бельгіі ў Індыі (Бамбей). У 1982 годзе назначаны намеснікам міністра замежных спраў краіны. З 1985 года — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Каралеўства Бельгія ў Польшчы. З 1990 года — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Каралеўства Бельгія ў Расійскай Федэрацыі. Жанаты.

*Беларусь — Кітай*

### Культура пачынаецца з адукацыі

Пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне адукацыі маюць намер падпісаць сёння ў Мінску міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь Віктар Гайсёнак і намеснік старшыні дзяржкамітэта па справах адукацыі Кітайскай Народнай Рэспублікі Лю Бін, які знаходзіцца цяпер у беларускай сталіцы.

Пагадненне прадугледжвае абмен інфармацыяй аб рэформах адукацыі ў дзвюх краінах, а таксама матэрыяламі з мэтай павышэння якасці адукацыі. Акрамя таго, бакі зацікаўлены наладзіць навукова-тэхнічнае супрацоўніцтва вышэйшых навучальных устаноў дзвюх дзяржаў і абмен студэнтамі і стажорамі.

**Белінфарм.**

г.Мінск.

*Ало, вас слухае "Народная газета"*

### Цяжкія праблемы не толькі ў "слабай палавіны"

**Ірына ДЗЯРГАЧ, аглядальнік па пытаннях культуры, адукацыі, жанчын**

**...Паслухаць сапраўды было пра што. У мінулую пятніцу тэлефон, вызначаны ў папярэднім нумары нашай газеты як прамая лінія сувязі з чытачамі, літаральна разагрэўся ад званкоў.**

Мяне як жанчыну і чалавека, які разумее, што ўзровень культуры грамадства ў многім залежыць ад становішча ў ім жанчын, ад адносін да нас, больш за ўсё кранулі размовы, якія тычыліся гэтай тэмы.

Мілыя, стомленыя прадстаўніцы "прекрасного пола"! Гэта ж колькі праблем трэба было вам стварыць, як змучыць, каб ніводная з вас не пацікавілася ў газеты ні апошнімі выдумкамі замежных куцюр'е, ні моднымі прычоскамі ці макіяжам! Ці памятаеце вы той час, калі па ўсякім выпадку і без яго вас называлі слабай палавінай чалавецтва?

Слабая палавіна сёння вырашае цяжкія праблемы. Як выжыць самім і выгадаваць дзяцей? У мінчанкі Яўгеніі Барысаўны Занінай іх пяцёра. Заробку мужа хапае хіба на ежу, ні на адзенне, ні на абстаноўку ў кватэры няма ні сродкаў, ні сіл. Тыя, хто не паспеў у свой час атрымаць пасведчанне мнагадзетнай маці, таўкуцца ў агульных чэргах, марна даказваюць у магазінах, што паўкілаграма тавару "ў адны рукі" ім малавата.

— Пішыце, калі ласка, пра жанчын, якіх скарацілі на рабоце, але якім удалося неяк уладкаваць свой лёс, — прасілі неаднойчы навуковыя работнікі і служачыя жанчыны. Многія з іх самі вісяць на валаску. — Дайце дапрацаваць два-тры гады да пенсіі, хаця б дзецям вайны, бо ні маленства ў нас не было, ні юнацтва, а сённяшняе грамадства пазбаўляе і старасці...

Пра тое, на што траціцца апошнія гады жыцця, расказаў муж 68-гадовай Зінаіды Сцяпанаўны Дзерах. Які ўжо тыдзень хворая, старая жанчына шукае па розных інстанцыях згубленыя дакументы аб тым, што працавала некалі ў "Белгалантарэі". Вяртаецца дадому ў слязах.

Пераважная большасць чытацкіх званкоў тычылася стану культуры ў нашай краіне. Іх аб'ядноўвала адно: разуменне аўтарамі таго сумнага факта, што культурнай дзяржавай Беларусь зможа назваць сябе не хутка. Меры прапаноўваліся розныя.

Інжынер ВА імя Арджанікідзе Альберт Іванавіч Крачко лічыць, што пачынаць трэба з элементарнай культуры — з шыльдачак "Не сорить", коміксаў і фельетонаў на гэту тэму, увядзення ў гарадах паліцыі нораваў.

— У беларускай культуры — дыктатура пасрэднасці, — лічыць мінчанін Казімір Ісакавіч Чарніцкі. — У літаратуры не з'яўляецца новых імёнаў, бо ў рэдакцыях усё тыя ж людзі, якія і раней не пускалі тое, што ім не падабаецца.

Загадчык кафедры менеджменту Мінскага інстытута культуры Мікалай Каралёў лічыць, што найвялікшая бяда грамадства — псіхалогія "тых, хто просіць", уласцівая работнікам культуры. Кафедра ставіць своеасаблівы эксперымент: спрабуе навучыць будучых выпускнікоў не проста працаваць, але і зарабляць грошы.

Школьны настаўнік з 13-гадовым стажам Алена Уладзіміраўна Пашкевіч прапанавала газеце прасачыць нараджэнне падручніка. Як кніга, на якую затрачваюцца немалыя сродкі і намаганні спецыялістаў, атрымліваецца нежыццёвай, шэрай, нецікавай і не дапамагае настаўніку, а хутчэй стварае яму дадатковыя цяжкасці?

— Сын скончыў чатыры класы, і я зазірнула ў яго праграму пазакласнага чытання, — паскардзілася мама з Мінска. — Тэмы, якія прапануюцца малым, — рэвалюцыя, жыццё Леніна, Крупскай...

Ведаеце, што суцяшае асабіста мяне? Тое, што такая вялікая колькасць людзей не проста заўважае праблемы і недарэчнасці нашага сённяшняга жыцця, але не ставіцца да іх абыякава. Таму дзякуй усім за парады, тэмы і проста неравнадушша. Многія са сваіх думак вы знойдзеце ў наступных нумарах газеты.

*Дискуссия*

# Не все колхозники думают так, как председатели...

**9 красавіка 1993 г. "Народная газета" надрукавала артыкул старшыні калгаса "ХХІ з'езд КПСС" Мікалая Коваля "Троянский мерин у колхозного подворья". Калі гэта магчыма, я хацеў бы даць кароткі адказ аўтару. Паколькі артыкул напісаны на рускай мове, то і адказ будзе на рускай.**

Уважаемый товарищ Коваль!

Прочитал вашу статью, потом перечитал еще раз, поскольку некоторые мысли не совсем понятны мне, а точнее — совсем непонятны, как, надеюсь, и другим читателям.

Например, вы пишете о том, что на Псковщине идеи частной собственности на землю воплощены в заросшие бурьяном земли и резкий спад производства сельскохозяйственной продукции. Насколько мне известно, земли на Псковщине и в сотне других регионов необъятного бывшего Советского Союза стали зарастать бурьяном не вчера, а десять—двадцать и более лет тому назад, когда о частной собственности на землю мало кто и подумать решался, не то чтобы говорить вслух. Вы пишете: "Можно подумать, что среди собственников нет лентяев, воров, пьяниц". Согласиться с вами никак нельзя. Лентяй и пьяница просто не станет собственником, а воровать у себя невозможно.

Еще вы пишете, что устремления крестьян направлены именно на коллективную собственность на землю. Уважаемые мной люди утверждают, что они вообще не понимают, что это такое "коллективная собственность". Я тоже, признаюсь откровенно, не понимаю, как может быть коллективная собственность на пальто, автомобиль, тем более землю. Мне кажется, понятие "коллективная собственность" — то же самое, что "ничья собственность".

Это во-первых. А во-вторых, я думаю, вы не можете утверждать, что все колхозники "XXI съезда КПСС" согласны с мнением председателя. А говорить от имени всех крестьян республики просто несолидно.

Тем более что более двух с половиной тысяч крестьянских семей на практике показали, что они очень даже хотят стать собственниками земли и того, что они вырастят на этой земле.

Что касается разграбления достояния нашей республики, то смею предположить, что и без закона о частной собственности на землю при такой политике Верховного Совета вместе с правительством через год-два у 99 процентов населения грабить будет просто нечего.

И последнее. Я, человек рядовой и не имеющий никакого отношения к законотворческим структурам, могу дать вам гарантию, что Верховный Совет (членом которого, кстати, вы являетесь) большинством голосов примет такие законы и постановления, которые не будут чем-то ограничивать вашу деятельность.

Поэтому ваша тревога беспочвенна, во всяком случае преждевременна. И вы еще успеете, если пожелаете, переименовать колхоз с "XXI съезда КПСС" на "XXIX съезд КПСС".

Ради Бога, не подумайте, что лично я против колхозов, совхозов и т.п. Я только за то, чтобы каждый человек имел право и возможность строить свое благополучие так, как считает нужным.

Всего хорошего.

**Вацлав БЕДУНКЕВИЧ, инженер-строитель.**

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб кампенсацыі страт, панесеных сельскай гаспадаркай у 1992 годзе ў сувязі з лібералізацыяй цэн на прамысловую прадукцыю (работы, паслугі)

У мэтах выканання Закона Рэспублікі Беларусь "Аб прыярытэтным сацыяльна-культурным і эканамічным развіцці сяла і аграпрамысловага комплексу" ў частцы парытэту цэн паміж прамысловай і сельскагаспадарчай прадукцыяй Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь правесці бюджэтную кампенсацыю страт сельскагаспадарчых прадпрыемстваў для забеспячэння парытэту цэн на прамысловую прадукцыю (работы, паслугі) і сельскагаспадарчую прадукцыю за 1992 год.

2. У сувязі з недахопам бюджэтных сродкаў для гэтых мэт Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусь прадставіць у чэрвені бягучага года Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь беспрацэнтны крэдыт у памеры 89,3 млрд. рублёў з аднясеннем яго на ўнутраны дзяржаўны доўг Рэспублікі Беларусь.

3. Лічыць мэтазгодным накіраваць атрыманыя сродкі ў першую чаргу на капітальныя ўкладанні.

4. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь прадугледзець у рэспубліканскім бюджэце неабходныя сродкі на абслугоўванне ўнутранага дзяржаўнага доўгу.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

2 чэрвеня 1993 г.
г. Мінск.
№ 2338-XII

*Нам стало известно*

## Наибольшая помощь — из Германии

**Недавно в Париже состоялась первая встреча представителей государств, оказывающих помощь Республике Беларусь, участники которой были приглашены Всемирным банком.**

Опрос представителей помогающих стран о размере их помощи Беларуси показал, что Федеративная Республика Германия оказывает на двусторонней основе наибольшую помощь: из общей суммы 1,660 млрд. немецких марок, предоставленной Германией в 1992—1993 годах, 1 млрд. был выделен для строительства жилья для возвращающихся военнослужащих из Западной группы войск. 590 млн. немецких марок являются экспортными гарантиями, остальная часть приходится на гуманитарную помощь, консультации по экономике и программы по переквалификации. На многосторонней основе Германия принимает участие в помощи продовольствием и в технической помощи Европейского сообщества, стоимость которой не входит в вышеназванную сумму.

***Эту информацию редакция "Народной газеты" получила в посольстве Федеративной Республики Германия в Республике Беларусь.***

*Дыпламатычны кур'ер*

## Уручана пасланне Бутраса Бутраса Галі

**Пасланне генеральнага сакратара ААН Бутраса Бутраса Галі, адрасаванае міністру замежных спраў Беларусі Пятру Краўчанку, было перададзена яму прадстаўніком ААН у рэспубліцы М.Каханэ.**

Як стала вядома з паведамлення аддзела інфармацыі МЗС, у дакуменце пацвярджаецца паўнамоцтва М.Каханэ як прадстаўніка ААН і рэзідэнта-каардынатара шэрагу праграм і фондаў гэтай міжнароднай арганізацыі ў нашай краіне.

## Пісьмо з Цюрыха

**Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства рэспублікі Пётр Краўчанка сустрэўся з прадстаўніком іудзейскай культурнай абшчыны ў Цюрыху, членам Еўрапейскага таварыства рабінаў, доктарам Цальманам Касоўскі, які наведаў Беларусь.**

Госць перадаў міністру пісьмо з просьбай аказаць садзейнічанне ў вяртанні яўрэйскай абшчыне ў Брэсце будынка, у якім раней размяшчалася сінагога.

У сустрэчы ўдзельнічаў галоўны рабін Беларусі Іцхок Вольпін.

**Белінфарм.**

*Рэпарцёр даведаўся*

## Прэміі для шыннікаў

**Адміністрацыя і прафсаюзны камітэт бабруйскага камбіната "Белшына" распрацавалі новае палажэнне аб выплаце прэмій работнікам, якія дасягнулі юбілейнага ўзросту або звальняюцца з прадпрыемства пасля назначэння пенсіі.**

Цяпер кожны, добрасумленна адпрацаваўшы на камбінаце ад 1 да 3 гадоў, у сваю юбілейную дату (45, 50, 55 гадоў і г.д.) атрымлівае прэмію ў размеры адной месячнай мінімальнай зарплаты, звыш 5 гадоў — дзве, ад 15 да 20 — чатыры і звыш 20 — пяць мінімальных месячных зарплат.

**Мікалай КОМЛЕЎ.**

## Посреднический бизнес. Пока

**В частном бизнесе Беларуси сегодня работает 15 процентов от общего числа занятых граждан.**

Его доля в товарообороте республики составляет треть, а в производстве товаров — десятую часть, в сфере оказания платных услуг — 45 процентов.

**Сергей ЛИТВИН.**

*Не ўсё так дрэнна*

## Рынак вучыць...

**Асфальтаўкладчыкі і аўтамабільныя прычэпы, аўтакраны і трактарныя пагрузчыкі, вобады для легкавікоў і рыдлёўкі-шуфлі...**

Усё гэта пачаў выпускаць завод "Магілёўсельмаш" замест раскідвальнікаў цвёрдых угнаенняў і іншай неканкурэнтаздольнай прадукцыі. Пераарыентавацца на выпуск новых машын і вырабаў магілёўскіх сельмашаўцаў прымусіў рынак.

На новую прадукцыю паступіла ўжо нямала заявак, у тым ліку з-за мяжы.

**Мікалай ІВАНОЎ.**

## "Ікарусы" будуць рамантаваць у Гомелі

**Без спынення вытворчасці пачаў сур'ёзную рэканструкцыю Гомельскі аўтарамонтны завод.**

На прадпрыемстве пастаўлена мэта: ужо ў наступным годзе асвоіць і ўкараніць люблінскую тэхналогію рамонту аўтобусаў "Ікарус". У той жа час аднаўленне "ЛАЗаў", "ЛіАЗаў", "РАФаў" будзе працягвацца ў прывычным рэжыме.

Пераўзбраенне аўтарамзавода — праграма не столькі абласнога маштабу, колькі рэспубліканскага, паколькі цяпер у Беларусі на транспартных перавозках выкарыстоўваецца каля 3,5 тысячы "Ікарусаў", а адпаведнай аднаўленчай базы няма. Да гэтага часу капітальны рамонт прыходзіцца ажыццяўляць у Польшчы, што звязана з вялікімі фінансавымі расходамі.

**Віктар КОТАЎ, Белінфарм.**

*А што ў правінцыі?*

## Свая гразь больш гаючая?

**Якраз да сезона летніх водпускаў атрымалі новую водагразелячэбніцу работнікі аб'яднання "Ваўкавыск-цэментнашыфер".**

Размясцілася яна на тэрыторыі заводскага санаторыя-прафілакторыя "Пралеска". Лекавыя гразі завозяцца з суседняга Друскінінкая. Пры гэтым кошт пуцёвак у прафілакторый, разлічаны амаль на сто месцаў, застаўся ранейшым — дзве з палавінай тысячы рублёў, паколькі асноўныя затраты ўзяў на сябе заводскі прафсаюз.

## Не сэканоміш, не атрымаеш

**Прэмію за эканомію дэфіцытных энергарэсурсаў вырашана выплачваць незалежна ад усіх іншых відаў заахвочвання ў калгасе "Зара" Івацэвіцкага раёна.**

Затое і на віноўнікаў неапраўданага марнатраўства накладваецца немалы штраф. Прычым прыняты на агульным сходзе закон распаўсюджваецца на ўсіх: і на вытворчыя падраздзяленні, якія дапусцілі перарасход гаручага, і на токара, у якога не выключаны станок, і на старшыню.

## "Сямейны" бег

**Падлічылі кіламетры, што прабег майстар торфабрыкетнага завода "Верцялішкі", паблізу Гродна, Аляксандр Пераваз. І як жа здзівілася ўся сям'я, калі аказалася, што яе галава "абагнуў" ужо Зямлю.**

Пачаўшы сур'ёзныя трэніроўкі дзесяць гадоў таму назад, Аляксандр выходзіць на старт як мінімум тройчы ў тыдзень. Не адзін раз выступаў за каманды Гродзенскага раёна і вобласці, удзельнічаў у такіх прэстыжных марафонах, як Варшаўскі і Маскоўскі, а таксама "Вячэрні Санкт-Пецярбург" і "Мінскае кальцо". 42-гадовы спартсмен у складзе беларускай каманды выступаў у шматдзённым прабегу па маршруту Мінск—Вільнюс—Каўнас—Калінінград. Лідэрам спаборніцтваў ніколі не быў, затое заахвоціў займацца бегам і жонку, і дачок.

## Дочкі-маці ў інтэр'еры вытворчасці

**Будаўніцтва буйной гардзіннай фабрыкі разгарнулася пад Магілёвам.**

Яе праектная магутнасць — трынаццаць мільёнаў квадратных метраў гардзіннага палатна і дзесяць мільёнаў пагонных метраў карунак у год. Асноўнае абсталяванне заказана ў фірм ФРГ. А працаваць прадпрыемства збіраецца на мясцовай сыравіне, якую выпускае магілёўскае аб'яднанне "Хімвалакно". Гэты праект выгадны як для хімікаў, так і для тэкстыльшчыкаў. У гэтым годзе ўрад рэспублікі выдзеліў на новабудоўлю з бюджэту сто мільёнаў рублёў і дзвесце мільёнаў доўгатэрміновага крэдыту.

Падставіла плячо даччынаму прадпрыемству і стужкаткацкая фабрыка, уклаўшы ў будаўніцтва ўжо семдзесят мільёнаў рублёў сваіх уласных сродкаў. Яны і ў далейшым разлічваюць фінансаваць будоўлю са сваіх даходаў.

## Свой фонд міласэрнасці

**Уласны фонд міласэрнасці створаны ў Цішоўскім сельскім Савеце Магілёўскага раёна.**

Дапамагчы маламаёмным заклікалі калектывы прадпрыемстваў і арганізацый, усіх жыхароў навакольных вёсак мясцовыя дэпутаты. А прыклад паказалі выканкам сельсавета і калгас "Маяк камунізму", якія выдзелілі на заснаванне фонду па 50 тысяч рублёў. З дапамогай савета ветэранаў узяты на ўлік усе адзінокія і маламаёмныя пенсіянеры, інваліды з дзяцінства, мнагадзетныя сем'і. Ніхто з іх не застанецца без дапамогі фонду.

## Акно ў Еўропу з відам на Гомель

**Першы, але даволі сур'ёзны крок да сусветнага ўзроўню зрабіў Гомельскі медыцынскі інстытут.**

Вядомы нямецкі гематолаг, прафесар Гамбургскага універсітэта Ролф Нет адкрыў у навучальнай установе цыкл міжнародных лекцый і практычных заняткаў. Як сказаў карэспандэнту Белінфарма рэктар інстытута Юрый Бандажэўскі, у бліжэйшы час гэта ВНУ мае намер прыцягнуць для навучання будучых медыкаў лепшыя сусветныя навуковыя сілы.

**Белінфарм.**

*За самоваром у главного редактора*

***Леонид ЩЕМЕЛЕВ:***

# "Каждый выбирает по себе женщину, религию, дорогу..."

В нашей стране у творцов трудная судьба. Мы всегда были слишком бедны, слишком суетны и озабочены бытом и хлебом насущным, чтобы осознавать истинную ценность искусства. И хоть нынче некоторым из нас многое по карману, положение мастера, художника в обществе не изменилось. Дело даже не в деньгах, не в вознаграждении. Помню, как однажды в мастерской у Леонида Дмитриевича Щемелева бизнесмен из нуворишей, эдакий молодой когтистый коммерсант, покупал картины. Ему казалось, что он пришел с огромным кошельком, поэтому парень вел себя раскованно и вальяжно. "Леонид Дмитриевич, — сказал он, глядя на выставленные для продажи холсты, — выберите сами, где вы, Щемелев, лучше". Он не мог (не хотел?) вглядываться в картины — его душа, видно, ни на что не откликалась. Человек откровенно вкладывал в живопись деньги.

Я тогда кожей ощутила, что это такое для художника — непонимание. Как ожог. Почти физическая боль. Можно ли смягчить ее гонорарами?..

Нет, конечно, имя Щемелева известно у нас самой широкой публике: все-таки народный художник, лауреат госпремии. Но многие ли знают истинную ему цену? Один из самых артистичных живописцев современности, один из самых интеллигентных людей республики, Леонид Щемелев относится к той культурной элите нации, которая выражает собственное уникальное мироощущение и без которой невозможно возрождение.

Приглашая Леонида Дмитриевича в редакцию "к самовару", мы немного волновались. Будут ли интересны мастеру наши газетные сиюминутные заботы? Но разговор, кажется, получился нескучный, и мне остается обобщить вопросы.

— Вы один из первых живописцев, кто опрокинул представление о белорусском пейзаже как о чем-то монотонном и однообразном. После ваших выставок иначе видишь мир. Нет, серьезно, впечатление такое, будто не природа Беларуси на вас влияет, а вы, художник, творите ее своими красками.

— Мнение о том, что наша Беларусь — не живописная республика, действительно бытовало, но среди кого? Тому же Машерову, например, ее умело, исподволь внушали некоторые мастера слова. Мол, откуда здесь взяться цвету, когда так мало солнца. Вот в Италии — это да... А у нас все серенько и простенько. Смешно! Такой насыщенной гаммы, такого развитого зеленого и синего я не видел нигде, а поездил я дай Бог каждому. Но самостоятельно мыслить чиновники не умели, это ведь требует знаний и общей культуры, а откуда этому было взяться? Подумать только, в независимой республике до сих пор нет национального музея! То есть вывеску на Художественном сменили, а что внутри, в залах? Прекрасно представлено русское искусство, неплохое собрание западноевропейского, зато белорусского — жалкие крохи. Без возмущения об этом невозможно говорить. Забыта целая плеяда выдающихся художников Беларуси послевоенного периода — Цвирко, Зайцев, Тарасиков, Мозалев, Глебов, Шевченко, Последович и много-много других. Их картин давно никто не видит, они не вынимаются из запасников. Пропадает целое национальное достояние! Нет, нет в республике лидера, который бы понимал, что значит изобразительное искусство для развития нации, и построил бы в столице культурный центр, как когда-то Помпиду в Париже. Культуру должно субсидировать государство. Что сейчас рассчитывать на меценатов? Не они, а государство должно снизить оплату мастерских, которая тяжким бременем легла на плечи многих молодых талантливых художников. Такие жестокие поборы могут запросто угробить искусство.

— Леонид Дмитриевич, вы родились на заре советской власти, при ней же получил признание ваш талант. Как вы относитесь к той эпохе?

— Отношения с властью у меня всегда были неровные. Знаете, как на качелях: то выбирали секретарем Союза художников, то со скандалом снимали, обвиняя в национализме, формализме и просто в плохом характере. Помню забавный эпизод. Я подарил картину приятелю. Через некоторое время он возвращает ее мне. Извини, говорит, прости, но не могу я держать ее у себя дома. Вчера собрались гости — министры, генералы (сам он тоже был человек с положением в обществе), посмотрели на нее и говорят: "Национализмом попахивает". Что здесь ответишь? Я забрал картину, а вскоре вместе с другими работами отправил ее на выставку в Москву. Проходят недели, и вот как-то вечером смотрю программу "Время" и глазам не верю. На экране показывают эту самую "националистическую" картину, и журналист комментирует: открылась всесоюзная выставка в Манеже, талантливые работы представил белорусский художник Щемелев. Он интересно развивает национальные традиции и т.д...

Власть часто заигрывала с художниками, понимая, какое мы мощное идеологическое орудие. Конечно, я видел немало гнусности, ханжества и лжи... Но уехать из страны? Нет, этот вариант никогда не рассматривался. Помните, как у поэта: "каждый выбирает по себе женщину, религию, дорогу". Я всегда был уверен, что моя судьба может состояться только дома, независимо от того, что происходит на моей земле. И все-таки я вспоминаю эту эпоху без горечи и досады. Лучшее, что в ней было, — это моя молодость и надежда.

— Кажется, на последней вашей персональной выставке, в феврале, мы видели потрясающую работу: белогвардеец прощается с лошадью у моря. Лица его не видно, лишь острые вздрагивающие плечи. Так скупо, строго нарисовано, но так пронзительно, так остро... И еще цвет — серебристо-белое марево... Может, это и есть цвет вечной тоски? Леонид Дмитриевич, это картина — дань определенной моде покаяния, охватившей в последние годы все наше общество?

— Скорее, она — дань моей генетической памяти. Мой отец воевал в Красной Армии. Его родной брат был белогвардейцем. Он погиб на гражданской войне еще до моего рождения. Я родился и вырос в Витебске. В конце двадцатых в городе сложилась уникальная для того времени демократическая атмосфера, творческая среда, в которой обитало много интересных художников. Я жил с родителями на 8-й Мопровской улице. Это был район ремесленников и мастеров. Ни пьянства, ни скандалов. Мои соседи были потомственными горожанами. Все в округе знали, кем был наш ближайший родственник, но никто не донес, не выдал. Еще не исчезли понятия чести, добрососедства. Это потом все изменилось, когда город наводнился люмпеном из деревень, когда выдвиженцы, а в общем-то люд без роду и племени, стали править жизнью. Но я рос, не испытывая страха, ведь я не знал ни другой жизни, ни другой власти. Теперь я понимаю, что родители просто оберегали меня от проблем, бесконечно осторожно выдавая мне какую-либо информацию. Наверное, правильно делали, потому что я воспитывался в советской системе, нормальным советским школьником, которому по всем правилам с детства был привит пролетарский гонор, и я многого бы тогда не понял, а то бы еще и возмутился. Но вот любопытно: навсегда запомнились частушки того времени: "Спасибо Сталину-грузину, что обул нас всех в резину". Или еще: "Товарищ Ворошилов, война ведь на носу, а конница Буденного пошла на колбасу". Все-таки в народе не было прибито намертво чувство юмора, эдакой проницательной насмешливости...

— Как вы относитесь к 9 Мая, к празднику Победы?

— С благоговением. Сам я воевал в кавалерийском корпусе и даже мечтал стать военным. К счастью, не сбылось... Сегодня, когда я вижу моих сверстников, которые стоят на площадях, обозленные, растерянные, с лозунгами "Долой демократов!", мне их искренне жаль. Как будто их обокрали только сейчас! Все сорок пять лет после войны было то же самое, только партия умело камуфлировала свою истинную сущность лозунгами и обещаниями.

— Трудно припомнить вашу выставку, на которой бы не было портрета белокурой, чуть грустной женщины Светланы. Это ваша супруга?

— Да, Светлана Николаевна — моя жена. Каюсь, культ личности налицо, но красота — единственный культ, которому служит мое искусство. Я вообще люблю рисовать своих близких. У меня четверо детей и двое внуков. Почти все они пошли по моим стопам. Однажды, когда издавали художественный альбом моих работ, редактор в издательстве упрекнул: "У вас на портретах одни родственники!" Мол, а где человек-труженик? Теперь в такой идиотизм даже трудно поверить, а тогда, чтобы альбом вышел в свет, приходилось считаться с мнением чиновника-обывателя, мозги которого заблокированы схемами о том, кто человек-труженик, а кто нет.

— Леонид Дмитриевич, вы производите впечатление счастливого человека.

— Да? Ну, это, наверное, от того, что я встаю по утрам и мне еще хочется работать.

— А как вы проводите выходные?

— В мастерской. И будни, и выходные, и отпуска, и праздники. Мне еще надо многое успеть сделать. Жизнь длинная, а время проходит так быстро...

**Елена МОЛОЧКО, обозреватель "Народной газеты".**

*Дзяржава супраць асобы*

# Не сунь свой нос...

## або За што могуць выключыць з прафсаюза на прэзідыуме абкама

**Віктар ХАРОШКА**

Канфлікту на пачатковай стадыі гэтай гісторыі не было. Проста Ірына Аляксандраўна Скрыпка, намеснік старшыні прафкама арэнднага прадпрыемства "Усход", выступіла з афіцыйнай заявай. Маўляў, кантрактная сістэма не дае магчымасці абараніць інтарэсы радавых цырульнікаў, а таму ўкараняць яе не варта.

Начальства такі выпад прафсаюзнага лідэра напачатку прапусціла міма вушэй — з кім не бывае. Але для майстроў, тых, хто непасрэдна абслугоўвае кліентаў, такія паводзіны Ірыны Аляксандраўны сталі чымсьці накштальт камертона, які задае танальнасць. І ўжо на наступным сходзе І.Скрыпку падтрымала Надзея Максімаўна Мамойка. Яна выступіла з рэзкай крытыкай дырэктара "Усходу" Таццяны Ісаеўны Дзікоўскай. Якая бура ўсчалася! Як жа, пакрыўдзілі чалавека з наменклатурнай абоймы. Адступіся хоць крышачку Мамойка, і не відаць бы ёй пасады загадчыцы цырульні.

Толькі ж, адчуўшы падмогу, давяла Надзея Максімаўна справу да Кантрольнай палаты рэспублікі. Дзяржаўны орган афіцыйна засведчыў парушэнні. Праўдай было і тое, што Таццяна Ісаеўна, не маючы на гэта права, стала сузаснавальнікам цырульнай фірмы, і тое, што з "Усходу" ў тую фірму для падтрымкі незаконна пераліčваліся грошы, і многае што іншае.

У калектыве толькі і гамонкі было што пра гэта.

Тым большае расчараванне спасцігла супрацоўнікаў, калі даведаліся, што Дзікоўскую пакаралі... пераводам на пасаду намесніка начальніка ўпраўлення бытавога абслугоўвання горада. Як кажуць, з грязі ды ў князі.

З гэтага моманту ў паветры і запахла навальніцай.

Не паспелі ў дырэктарскім кабінеце вывятрыцца духі Дзікоўскай, як загадам па ўпраўленню, дзе яна стала працаваць, на кіруючую пасаду ва "Усход" без згоды з Саветам арандатараў прызначылі Валянціну Васільеўну Янушэўскую. Калектыў у чарговы раз страсянула — чаму ніхто з народам не раіцца?

Хуценька стварылі так званую ініцыятыўную групу, у якую, дарэчы, увайшла і Ірына Аляксандраўна Скрыпка. Вырашылі даведацца, чаму ўсё вырашаецца келейна, а заадно і падрыхтаваць зварот да калег, у якім абазначыць будучы рэгламент выбараў дырэктара.

Да канферэнцыі па падвядзенню вынікаў выканання калектыўнага дагавора работа ініцыятыўнай групы дала такі плён: адначасова правесці канферэнцыю арандатараў, надзяліўшы абраных дэлегатаў двума паўнамоцнымі мандатамі. І ў вярхах, і ў нізах з такой пастаноўкай пытання пагадзіліся.

Больш таго, прайшла прапанова ініцыятыўнай групы і аб выбарах дырэктара. А пярвічныя арганізацыі вылучылі на гэту пасаду свайго кандыдата — галоўнага эканаміста аб'яднання Тамару Эдуардаўну Філіпаву.

Такіх канферэнцый "Усход" да 6 красавіка бягучага года яшчэ не бачыў. Дзве гадзіны ішла ў поўным сэнсе бойка за парадак дня. У рэшце рэшт каманда Скрыпкі перамагла, і першай праводзілася канферэнцыя арандатараў, якая і ўнесла патрэбныя папраўкі ў статут. І гэта на вачах усяго вышэйстаячага начальства. Былі тут і прадстаўнікі ўпраўлення, і галіновага абкама прафсаюза.

Не дапамагло. Канферэнцыя выбрала новага дырэктара — Філіпаву. Праўда, яна зрабіла агаворку, што прыступіць да выканання сваіх абавязкаў толькі з таго моманту, калі райвыканкам афіцыйна зарэгіструе змяненні ўсходаўскага статута.

Пасля ўсяго гэтага і не стала спакою Ірыне Аляксандраўне Скрыпцы. Пераварушылі ў біяграфіі і ў рабоце ўсё. Было заўважана, што яна член БНФ. Інкрымінавалі няправільнае зняцце з уліку сямі членаў прафсаюза, якія потым зарэгістраваліся ў незалежным прафсаюзе "Канфедэрацыя працы Беларусі", хаця парушэння статута з боку Скрыпкі на той час не было. Тлумачэнні аб парадку выхаду з арганізацыі прыйшлі толькі праз шэсць месяцаў пасля азначанага выпадку.

І вось нарэшце 29 красавіка прэзідыум абкама прафсаюза прыняў рашэнне. Цытую: "Намесніку старшыні прафкама Скрыпцы вызначыцца па пытанню прыналежнасці да прафсаюза, спыніць дзейнасць, якая супярэчыць Статуту галіновага прафсаюза. У выпадку працягу работы, якая наносіць шкоду прафсаюзу, разгледзець пытанне аб яе членстве ў прафсаюзе".

На просьбу старшыні абкама прафсаюза рабочых мясцовай прамысловасці і камунальна-бытавых прадпрыемстваў Таццяны Антропаўны Шпакавай напісаць тлумачальную запіску Скрыпка адказала:

— На пасяджэнні абкама я сказала ўсё.

Гэтыя словы, а яшчэ тое, што Ірына Аляксандраўна амаль ніколі не прасіла парады, нават калі "адпусціла" 7 работнікаў у незалежны прафсаюз, не маглі падабацца Шпакавай. Яна гэта і не ўтойвае. Але разважлівасці Таццяне Антропаўне хапіла, калі яна галасавала за рашэнне "супраць". Разумела, што трохі прэзідыум перастараўся.

Тым часам райвыканкам не зацвердзіў дапаўненняў і паправак да статута, якія прыняла канферэнцыя. Прыйшлося па-новаму збіраць дэлегатаў, каб усё прывесці ў юрыдычную норму. Таццяна Антропаўна пагутарыла з Янушэўскай, каб тая сама пакінула пасаду дырэктара. Больш таго. Сабрала Шпакава яшчэ раз і прэзідыум, на якім прыпынілі дзейнасць ранейшага рашэння. Хоць да гэтага часу з галіновага прафсаюза прыйшло ўдакладненне, якое дазваляе зараз выключаць членаў прафсаюза за асобныя кепскія ўчынкі і на пасяджэннях вышэйстаячых арганізацый.

Як бы там ні было, а ў калектыве "Усходу" падзеі гэтыя "хістаюць" людзей. Зараз збіраюцца подпісы ў падтрымку Скрыпкі. Выключаць яе з прафсаюза цяпер наўрад ці хто будзе.

## ЗАМЕЖЖА

* ІТАР-ТАСС * НАРОДНАЯ ГАЗЕТА *

## Пульс дня

### У ЕС прагназіруюць эканамічны спад

**Сёлета ўпершыню за адносна доўгі перыяд у краінах Еўрапейскага супольніцтва будзе адзначаны спад эканамічнай вытворчасці ў 0,2—0,3 працэнта.**

Аб гэтым новым прагнозе камісіі Еўрапейскага супольніцтва, якая раней прадказвала сціплы, але ўсё ж рост у 0,7 працэнта, паведаміў намеснік яе старшыні, адказны за эканамічныя і фінансавыя пытанні, Хеніг Крыстаферсен.

### Прэм'ерам стане жанчына?

**За тыдзень да выбараў лідэра кіруючай прагрэсіўна-кансерватыўнай партыі, які стане новым прэм'ер-міністрам Канады, найлепшыя шанцы заваяваць высокую пасаду мае міністр нацыянальнай абароны Кім Кэмпбел.**

Яе гатовы падтрымаць 43 працэнты дэлегатаў партыйнага з'езда, якому 13 чэрвеня прадстаіць назваць пераемніка цяперашняга кіраўніка ўрада Брайана Малруні.

### Арабы пагадзіліся на размову

**Арабскія краіны, якія прымаюць удзел у араба-ізраільскім дыялогу, згадзіліся прыбыць у Вашынгтон 15 чэрвеня на 10-ы раунд перагавораў з ізраільскім бокам.**

Аб гэтым заявіў дзяржаўны міністр замежных спраў Іарданіі Талал Аль-Хасан пасля нарады кіраўнікоў знешнепалітычных ведамстваў Іарданіі, Лівана, Сірыі і Арганізацыі вызвалення Палесціны.

### Новая мятла...

**Новы прэзідэнт Гватэмалы Раміра Дэ Ляон Карпіа пачаў сваю дзейнасць на вышэйшай дзяржаўнай пасадзе з грунтоўнай “чысткі” вярхушкі ўзброеных сіл.**

На прайшоўшай у гватэмальскай сталіцы прэс-канферэнцыі кіраўнік дзяржавы аб'явіў аб рашэнні адправіць у адстаўку міністра абароны генерала Хасэ Дамінга Гарсіа Самайоа і шэраг іншых вышэйшых ваенных чыноў.

### Адкрыта пасольства Арменіі ў Аўстрыі

**Былы намеснік міністра замежных спраў Арменіі Арман Навасардзян стаў першым Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом гэтай закаўказскай рэспублікі ў Аўстрыі.**

Намеры адкрыць у аўстрыйскай сталіцы ўласныя дыпламатычныя прадстаўніцтвы выказваюцца таксама з боку шэрагу іншых былых саюзных рэспублік, у прыватнасці Узбекістана, Кыргызстана і Туркменістана.

### Апошні бой, ён цяжкі самы

**Нягледзячы на расчараванні, што прынеслі два раунды перагавораў на мінулым тыдні, Злучаныя Штаты правядуць заўтра яшчэ адну сустрэчу з дэлегацыяй КНДР.**

Аб гэтым паведаміў дзяржаўны дэпартамент ЗША. У цэнтры дыскусій, якія праходзяць у Нью-Йорку, знаходзяцца пытанні ядзернай вытворчасці, а таксама аб'яўленае Пхеньянам рашэнне аб выхадзе з дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі. Калі бакам не ўдасца дасягнуць пагаднення, то 12 чэрвеня Паўночная Карэя павінна перастаць прытрымлівацца палажэнняў пагаднення аб ядзерным нераспаўсюджванні.

### У гасцях не соладка. І дома не лепш

**Гібеллю па меншай меры сямі чалавек, знікненнем яшчэ больш двух дзесяткаў і арыштам астатніх 275 завяршылася спроба даставіць нелегальна ў ЗША вялікую групу кітайскіх эмігрантаў.**

Судна, якое прайшло шлях з Кітая вакол Афрыкі і затым уздоўж берагоў Паўночнай Амерыкі, села раніцай у нядзелю на мель каля Нью-Йорка. “Жывы груз”, які знаходзіўся на ім, затрыманы. Капітан судна “Голдзен Венчэр” і 13 членаў экіпажа арыштаваны. Іміграцыйныя ўлады мяркуюць, што судна было пасаджана на мель у ранішні час наўмысна. Людзі кінуліся ў ваду, спрабуючы дабрацца да берага і схавацца пад покрывам цемры.

### Самы папулярны прэзідэнт

**Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын карыстаецца ў сябе на радзіме значна большай падтрымкай, чым лідэры многіх вядучых заходніх дзяржаў у сваіх краінах.**

Аб гэтым сведчыць паведамленне японскай газеты “Ніхон Кэйдзай”, якая абагульніла звесткі аб узроўні папулярнасці кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін — членаў “сямёркі” і прэзідэнта РФ, якому праз месяц прадстаіць сустрэцца з імі ў Токіо.

## Пры язве страўніка піце... піва

**Вельмі невялікая колькасць алкаголю, не больш за 20 г штодзённа, садзейнічае лячэнню язвы страўніка і 12-перснай кішкі, — так заявіў прафесар Вольфганг Роч з Франкфурта.**

Яго парада такая: трэба выпіваць штодзённа бутэльку піва. Аднак сам дарадчык лічыць свой праект занадта рызыкоўным: не выключана, што хто-небудзь, пачуўшы аб карысці бутэлькі піва, можа перастарацца і прыйсці да высновы, што чым больш — тым лепш.

Аб перавазе піва гаворыць і другі прафесар — Хейнер Порст з Дрэздэна. Калі ўжо ўжываць алкаголь, то выключна піва, — лічыць ён. У адрозненне ад піва іншыя напіткі, нават у меншых дозах, адмоўна ўплываюць на страўнікава-кішэчны тракт.

**Міраслава СУЛЬДЗІНА.**
**БелаПАН.**

*(Па матэрыялах замежнай прэсы.)*

*Журналист “Народной газеты” побывал за рубежом. Что он там увидел?*

# VII. Земля — это самое святое, что есть у швейцарца

**Владимир САМОЙЛОВ**

Говорят, в Швейцарии есть деревни, но я их не видел. Такие же дома, как и в городе, только между ними расстояния побольше. Такие же рестораны, такие же “сверх нашего разумения” магазины и такие же бетоннные без единой колдобинки дороги. Здесь даже такие же автосалоны, где прямо на улице стоит несколько десятков красавцев машин, любую из которых можно купить, если, конечно, есть деньги.

Отец Мадлен живет в деревне Шерц, что в переводе — Шутка. В Шутке одиннадцать фермерских хозяйств, хотя население состоит не только из семей фермеров. Многие работают по найму или в соседних городах.

Землю еще в 1865 году купил прадедушка Мадлен. Дом строили три поколения семьи. Зато отстроили на славу. Земли тогда было всего два гектара, сейчас — восемь. Отец Мадлен арендует еще десять.

Раньше семья держала двадцать коров, сейчас, когда отец разменял седьмой десяток, от животноводства отказался. Впрочем, не совсем. Каждый день доит соседских коров. Заметим, что в Швейцарии — пусть не падают в обморок наши женщины — коров доят только мужчины. И в этом, полагаю, заключается еще одна раскрытая мной тайна капитализма.

В остальном капиталистическое сельское хозяйство почти ничем не отличается от нашего, не знаю уж теперь какого. Та же не слишком жирная земля, те же травы, те же коровы. Правда, не совсем те — дают по три-четыре ведра в день и очень стыдятся, когда получается меньше. Чтобы не промахнуться, удой каждой “швейцарки” заносится в компьютер, а данные посылаются на какую-то станцию в Цюрихе, где анализируются и приходят обратно в виде рекомендаций по кормлению и подготовке вымени к раздою. Ей Богу, не вру, сам видел.

А в остальном очень даже как у нас. Ну, например, везде вилы, которыми “кидают” навоз и силос, везде метлы, которыми подметают, и даже заметил соломорезку, какая раньше была в каждом белорусском хлеве. У нас их сдали в музеи, а здесь они еще служат. Как служат и старенькие трактора некоторым по многу десятков лет.

Женщины в деревне Шерц-Шутка к полседьмому берут тележки и везут на них в приемный пункт бидоны свежего молока. Дороги, как стеклышко, поэтому труда — никакого. Здесь взвешивают и сливают в общий котел. Всего деревня за раз сдает где-то около четырех тонн. Немного, но и немало. А главное, непонятно: как это страна обходится без этих жутких животноводческих ферм, от которых за километр разит, извините, аммиаком.

И странно, но при этом вся Швейцария завалена самыми разнообразными молочными продуктами, не говоря уже о швейцарском сыре с дырочками. Ну как это без хваленых комплексов КРС, уму непостижимо?



Но хлеб пекут сами. Мать Мадлен показала нам пышные аппетитные караваи. Один разрезали попробовать. Очень вкусно! Особенно с копченым слоистым салом, которое режут специальными острыми ножами на мельчайшие кусочки, подложив круглые дубовые дощечки.

Режем сало и ведем беседу. Мадлен переводит: у нее к селу душа не лежит, она изучает в университете русский.

Выясняется, что в целом жизнь у крестьян, конечно, как и во всем мире, трудная. Встают рано, целый день на ногах. Сейчас без коров полегче, а раньше уматывались.

За аренду гектара здесь берут 600 франков в год, арендная плата ограничивается государством. Отец Мадлен собирается на пенсию, поэтому думает сдавать свою землю в аренду. Это будет приносить, если сдать все восемь гектаров, примерно около 4800 франков годового дохода.

Когда наступит пенсионный возраст, а он для мужчин с шестидесяти пяти лет, то господин Уэлли будет получать пенсию, а точнее, страховку, за которую платил всю жизнь, примерно полторы - две с половиной тысячи франков в месяц. Не густо, но если перевести по курсу на наши, то получается, кажется, где-то больше миллиона “деревянных”. Прошу прощения у наших пенсионеров за эту арифметику.

**Фото автора**

*У наших соседей*

# Верная примета: если поляки жалуются на жизнь, значит жить стало лучше

**Как утверждает статистика, средний месячный доход на одного человека в польской рабочей семье составил за минувший год 1,4 миллиона злотых (около ста долларов), у пенсионеров 1,3 миллиона. Если сравнивать доходы наиболее состоятельных семей с беднейшими, то разница четырехкратная. Всего лишь годом раньше она была трехкратной.**

По польским меркам считается, что семью можно считать зажиточной, если на каждого ее члена приходится более 1,9 миллиона злотых. Такие доходы имеет каждая четвертая семья. Более половины польских семей утверждают, что вынуждены себе во многом отказывать, готовясь к какой-нибудь серьезной покупке. 2,4 процента поляков живут, по их собственной оценке, в нищете, им не хватает денег на еду, на дешевую одежду. Кстати, согласно статистике, большинство поляков в своем потреблении ориентированы именно на дешевые вещи, на дешевые продукты. Так, к примеру, в сравнении с прошлым годом рабочий или пенсионер съедает теперь на одну десятую больше макарон, картошки, фруктов. В то же время он на четверть урезал в своем рационе масло, на одну двадцатую — мясо.

Львиную долю расходов польской семьи составляют теперь платежи за жилье и коммунальные услуги. Раньше же поляки тратились в основном на продукты питания. Нынешний баланс расходов вполне объясним — ведь за прошлый год плата за квартиру, электроэнергию, газ подскочила в четыре раза. Причем перспективы не из приятных — экономисты пророчат новый виток инфляции. Грядет очередное, и не последнее, подорожание всего перечня товаров и услуг. Полякам придется в очередной раз затянуть потуже ремни и строже отнестись к своим расходам.

И все же при всей упрямости сухих цифр трудно поверить, что поляк нищ, как церковная крыса, а впереди у него только новые лишения. Если сравнить ситуацию нынешнюю и ту, которая была в Польше в начале 1990, до того как экономику подвергли “шоковой терапии”, в сегодняшнем дне куда больше светлых тонов. Да, в самом начале, после либерализации цен, жизненный уровень поляков резко упал. Потребительская корзина стала легче в три раза. Но уже к концу того же 1990 года шок прошел, и реформы Больцеровича начали помаленьку давать эффект. Два последующих года прошли под знаком покупательного бума. Приобретались автомашины, цветные телевизоры, видеомагнитофоны, спутниковые антенны, причем в неимоверных количествах. И сегодня у поляков вдвое больше видеоаппаратуры, чем в любой из стран Восточной Европы — 37 аппаратов на сто семей! По этому показателю они не отстают от западных немцев.

Ушли в прошлое те времена, когда консерваторы запугивали поляков ужасами рынка. Сейчас рынок уже воплощается в реальность. Эта реальность выглядит привлекательно и вселяет чувство уверенности. Естественно, появились новые проблемы, но это проблемы уже совершенно иного характера. Поляк все больше думает о том, куда вложить деньги, а не откуда их взять.

# Кто же купит яхту Онассиса?..

**Никак не удается найти покупателей на роскошную яхту, принадлежавшую в прошлом легендарному греческому судовладельцу Аристотелю Онассису. Уже второй аукцион, устроенный греческим правительством, которому Онассис подарил яхту в 1978 году, окончился безрезультатно. Если на предыдущих торгах в прошлом году желающих приобрести яхту вообще не оказалось, то в нынешнем некий инженер из Ганновера (ФРГ) предложил за нее немногим более 400 тыс. долларов — смехотворную сумму по сравнению с реальной стоимостью судна.**

Яхта Онассиса, названная именем его дочери — “Кристина”, была спущена на воду в 60-х годах. Ее отделали с вызывающей роскошью: паркеты из ценных пород дерева, мраморные ванны в каютах, персидские ковры, картины Эль Греко и других знаменитых живописцев. По приглашению легендарного миллиардера — одного из самых богатых людей планеты — на ее борту побывали Уинстон Черчилль, члены английской королевской семьи, Марлон Брандо, Мария Каллас и другие всемирные знаменитости.

Оказавшись в распоряжении правительства, которое хотело использовать роскошное судно для “представительских целей”, яхта несколько лет простояла в порту. Наконец ее решили продать за 4 миллиона долларов, но тут выяснилось, что никто не хочет платить такие деньги за роскошный и знаменитый, но уже старый корабль.

Впрочем, говорят, что главная причина отсутствия подходящих покупателей — суеверие. Миллиарды Онассиса и все его имущество, включая суперкомфортабельную яхту, не принесли счастья его семье. Его первая жена, по одной из версий, покончила с собой, сын Александр погиб в авиационной катастрофе, а дочь Кристина при загадочных обстоятельствах умерла в Аргентине.

*Вы прасілі адказаць*

**Даволі рэгулярна нашы чытачы просяць паведаміць аб складзе кіраўніцтва Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь і калі і да каго можна трапіць на прыём. Таму друкуем**

# РАСКЛАД

## прыёму грамадзян кіруючым саставам МУС Беларусі

| | | | |
|---|---|---|---|
| Міністр ЯГОРАЎ Уладзімір Дзям'янавіч (тэл. 29-78-08) | 2, 4-я серада | 10—13.00 | 16—18.00 |
| Першы намеснік міністра ДАНЬКО Уладзімір Антонавіч (тэл. 29-79-79) | 2, 4-ы аўторак | 10—13.00 | 16—18.00 |
| Намеснікі міністра МАТУСЕВІЧ Барыс Іванавіч (тэл. 29-78-67) | 1, 3-я пятніца | 10—13.00 | 16-18.00 |
| ПЛАТОНАЎ Канстанцін Міхайлавіч (тэл. 29-75-47) | 2, 4-ы чацвер | 10—13.00 | 16—18.00 |
| СЕРАДА Мікалай Міхайлавіч (тэл. 29-75-33) | 1, 3-ці панядзелак | 10—13.00 | 16—18.00 |
| САБАЛЕЎСКІ Люцыян Браніслававіч (тэл. 29-78-62) | 2, 4-ы панядзелак | 10—13.00 | 16—18.00 |
| Начальнік упраўлення крымінальнага вышуку КАЗЛОЎ Валерый Міхайлавіч (тэл. 29-78-74) | 1, 3-ці аўторак | 10—13.00 | 16—18.00 |
| Начальнік упраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю ШАФАРЭНКА Уладзімір Мікалаевіч (тэл. 29-76-78) | 1, 3-ці чацвер | 10—13.00 | 16—18.00 |
| Начальнік упраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю РУХЛЯДЗЕЎ Сяргей Ігаравіч (тэл. 29-77-62) | 1, 3-ці панядзелак | 10—13.00 | 16—18.00 |
| Начальнік следчага ўпраўлення ЗАХАРЭНКА Юрый Мікалаевіч (тэл. 29-77-42) | 1, 3-я серада | 10—13.00 | 16—18.00 |
| Начальнік упраўлення па папраўчых справах ЦУРКО Леанід Міхайлавіч (тэл. 29-79-38) | 2, 4-я пятніца | 10—13.00 | 16—18.00 |
| Начальнік упраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі КРЭЧКА Мікалай Васільевіч (тэл. 29-78-56) | 1, 3-ці чацвер | 10—13.00 | 16—18.00 |
| Начальнік упраўлення ДАІ АРЦЕМ'ЕЎ Мікалай Аляксандравіч (тэл. 29-77-82) | 2, 4-я пятніца | 10—13.00 | 16—18.00 |

У суботу з 10 да 13 гадзін прымае адзін з намеснікаў міністра. У нядзелю і святочныя дні, а таксама ў нерабочы час грамадзян прымае дзяжурны МУС (тэл. 29-79-89).

**Адрас МУС Беларусі: Мінск, вул.Убарэвіча, 5. Тэлефон бюро прапускоў: 29-75-39.**

*Отдых-93*

# Рукой подать до Юрмалы,

## или О том, как хорошо можно отдохнуть в санатории “Беларусь”

**Мы помним, как непросто решалась судьба санатория “Беларусь” в Юрмале. Но едва установилась ясность в вопросах собственности, появились новые препятствия: для въезда в суверенную Латвию отныне требуется виза, придется раскошеливаться и на таможенную пошлину. Не окажется ли недоступной популярная здравница на Рижском взморье? Отвечает начальник лечебно-оздоровительного объединения Управления делами Совета Министров Республики Беларусь Иосиф Ржеусский.**

— Собственно говоря, вопрос о собственности в Юрмале нельзя считать окончательно решенным. Главные корпуса санатория, медицинское и иное оборудование принадлежат Республике Беларусь — здесь найдено понимание. Но сам земельный участок и строения, возведенные до 1940 года, сданы нам в аренду до 1 января 1994 года. Дата определена латвийским законом о реприватизации. Именно до этого срока все бывшие владельцы имущества и земли могут заявить о своем праве на собственность. Если таких претендентов не появится, то будет заключен долгосрочный договор аренды, и тогда можно будет вздохнуть с облегчением.

Разумеется, как только Латвия объявила о введении виз, мы подумали о наших отдыхающих. На днях подписано межправительственное соглашение о статусе санатория “Беларусь” в Юрмале, в котором среди прочего оговаривается право беспрепятственного проезда для персонала санатория и лиц, приезжающих на лечение. Мы заговаривали и о безвизовом порядке пересечения границы, но понимания в этом вопросе с латвийской стороной не нашли. Поэтому остается несколько громоздкий, но единственно возможный порядок. Предъявив путевку в ОВИР, вы оформляете загранпаспорт. В латвийском посольстве в Минске бесплатно получаете въездную визу. Подчеркиваю, за визу платить не нужно. Поэтому поспешите приобрести путевку, и хороший отдых вам обеспечен.

— Кстати, какова стоимость путевки?

— 45—50 тысяч рублей. В принципе можно приехать в Юрмалу и приобрести путевку на месте. Но платить придется уже в латвийских рублисах, что обойдется дороже.

— Как в нынешнем году будут распределяться места в санатории?

— Так же, как и в прошлом. Наши санатории уже несколько лет не являются привилегированными. За путевками обращаются обкомы профсоюзов, крупные предприятия.

Главным образом мы оздоравливаем в Юрмале участников ликвидации аварии на Чернобыльской АЭС. По межправительственному соглашению до 15 процентов мест будет выделяться для ликвидаторов из Латвийской республики.

Итак, еще раз заостряю внимание — Юрмала и санаторий “Беларусь” для нас не закрыты. Любой житель Беларуси может поправить свое здоровье при минимальных затратах. Ведь значительную часть расходов, как правило, берут на себя профсоюзные организации, предприятия, колхозы, совхозы. А поэтому, не теряя времени, воспользуйтесь возможностью уже нынешним летом побывать в санатории “Беларусь”, что на Рижском взморье.

**Записал**
**Александр ЕГОРОВ.**

## Вам збіраюцца паказаць...

### “Маэстра з нітачкай”

Новую каляровую мастацкую кінакарціну з такой назвай стварылі кінамайстры кінастудыі “Надзея”. Аўтары сцэнарыя — Георгій Рэутаў, Аляксей Ярушнікаў пры ўдзеле Уладзіміра Вафіна, рэжысёр-пастаноўшчык — Георгій Рэутаў.

... Дзіўны чалавек Іван Макараў. Людзі вакол жывуць, пакутуюць, змагаюцца, уладкоўваюць, як могуць, свае вясковыя харомы, выдаюць замуж дочак, а ён толькі іграе сабе на гармоніку. На вяселлях іграць яго даўно ўжо запрашаць перасталі: умудраецца і тут паскандаліць, свята людзям сапсаваць. Усіх у вёсцы раздражняе Іван сваёй уедлівасцю, якую сам ён лічыць праматой, сумленнасцю, непадкупнасцю. Але мала хто ведае, што за дрэнным яго характарам прыхавана глыбокая душэўная рана.

Недзе ёсць у Івана Макарава сын, які некалі паехаў з вёскі і не падае пра сябе вестак. Але ў гэтым кінуўшым яго сыне — сэнс жыцця героя. Ён — тая адзіная нітачка, якая накіроўваецца на пошукі сына, якому хоча расказаць, якая вялікая яго бацькоўская любоў да яго, што ён увесь гэты час думаў пра яго, ды і папракне пры сустрэчы — нядобра так рабіць са старым бацькам...

Цікава праводзяць свае ролі ў фільме Аляксей Міронаў, Сяргей Струбоўшчыкаў, Ігар Кусакін, Уладзімір Трашчалаў, Фёдар Дунаеўскі.

### “Калаброд”

Фільм зняты на кінастудыі “Масфільм”.

... У былога сельскага жыхара, а цяпер гараджаніна Сямёна была запаветная мара. Кожны раз, прыязджаючы ў час адпачынку ў родную вёсачку, ён ні пра што і думаць не мог, акрамя як аб тым, каб рыбіну злавіць. Ды не простую. А вялізную. Чароўную. Пра яе шмат гаварылі, толькі бачыць яе нікому не даводзілася. Толькі вялізны цень ў возеры іншы раз заўважалі. Ды часам з глыбіні быццам падымалася спіна амаль з бычыную велічынёй. А калі ўжо ноччу тая рыбіна хвастом біла, дык гул па ўсёй акрузе ішоў...

Навошта Сямёну гэта здабыча? Не такі ўжо ён заядлы рыбалоў. Можа, для таго, каб усіх людзей накарміць, якія жывуць не вельмі сыта. Можа, каб жонцы даказаць, што не такі ўжо ён і няўдачнік, як яна лічыць. А можа, злавіўшы гэту чароўную невядомую рыбіну, якая наводзіць страх на ўсё наваколле, хоча Сёма і ў сабе гэты страх перамагчы і аднавяскоўцаў вызваліць ад праклёну, які вісіць над імі. Магчыма, і няма ніякага праклёну. Ды толькі амаль кожнага — нават калі ён і не прызнаецца ў гэтым — прыгнятае нешта невытлумачальнае, што перашкаджае быць самім сабой, светла і радасна глядзець на свет і спакойна радавацца жыццю — аднаму і непаўторнаму.

Экранізуючы апавяданне Уладзіміра Кананенкі “Злавіць рыбу”, рэжысёр-дэбютант С.Ломкін падымае бытавую гісторыю да ўзроўню філасофскай прытчы.

У галоўных ролях заняты Аляксандр Казакоў, Любоў Рудэнка, Вара Сталбова, Валерый Анісімаў.

### “Шчаслівыя дні”

Так называецца новая каляровая мастацкая кінастужка, пастаўленая рэжысёрам Аляксеем Балабанавым на Кінастудыі першага і эксперыментальнага фільма па свайму сцэнарыю.

Змест карціны сам па сабе нескладаны: з бальніцы выпісваецца чалавек з парушэннем псіхікі, выкліканым, як можна меркаваць, чарапной траўмай. Чалавек гэты не мае ні імя, ні блізкіх, ні дома, ні заняткаў. Нікому не патрэбны, ды і сам ён не мае ні ў кім патрэбы, блукае ён па горадзе, а потым вырашае развітацца з жыццём.

Але абмежаваць апавяданне пра фільм такім выкладаннем — значыць, нічога пра яго не сказаць. У сцэнарыі выкарыстаны матывы твораў ірландскага пісьменніка і драматурга Сэмюэла Бекета. Творчасць гэтага выдатнага прадстаўніка еўрапейскага авангардызму адрозніваецца прыхільнасцю да традыцый літаратуры “ўнутранага маналогу”, які падмяняе рэалістычны паказ сапраўднасці “патокам свядомасці” галоўнага персанажа. А паколькі ў героя фільма парушана псіхіка, перад гледачом паўстае недарэчны, пачварны і злавесны свет.

Вуліцы горада ў гэтым свеце здаюцца спраецыраванымі з цяжкага сну-кашмару: змрочныя, бязлюдныя, запушчаныя, са старымі дамамі, якія развальваюцца. Падобныя на гэтыя будынкі і іх жыхары. Ніводнай цэльнай, маральна здаровай асобы не з'явіцца на экране. Тут усе ушчэрбныя, аблічча, словы і ўчынкі людзей знешне ненатуральныя і нават абсурдныя, і, як недвухсэнсоўна прадказвае фільм, усе яны асуджаны разам са сваім горадам на павольнае паміранне ад хваробы, імя якой — бездухоўнасць...

У фільме здымаліся Яўген Мяркур'еў, Георгій Тэйх, Мікалай Лаўроў, Надзея Ілюхіна і іншыя.

### “Вампір апоўначы”

Гэты каляровы мастацкі фільм стварылі амерыканскія кінематаграфісты. Сцэнарый яго напісаў Д.Клеменс, рэжысёр-пастаноўшчык — Грэгары Маклачы.

... У Лос-Анджэлесе адбываецца серыя жудасных злачынстваў, ахвяр якіх знаходзяць з глыбокай ранай на шыі. Паліцыі зразумела, што пра сапраўднага вампіра не можа быць і гаворкі, аднак усе адчуваюць сябе бездапаможнымі перад злачынцам, які ажыццяўляе забойства за забойствам, не пакідаючы слядоў.

У паліцыі служыць лейтэнант Рэджэр Сатэр. Яму становіцца зразумела, што забойца — незвычайная асоба, якая валодае тэлекінезам і экстрасенсорнымі здольнасцямі, якія дапамагаюць яму авалодваць душамі славалюбівых мужчын і жанчын, якія гатовы пайсці на ўсё дзеля славы і поспеху...

Галоўныя ролі ў гэтай вострасюжэтнай карціне выконваюць Дж.Уільямс, Г.Вінтас, Л.Майлн і іншыя акцёры.

